У мяне зазваніў тэлефон.
- Алё! Хто гаворыць?
- Слон.
- Хто? Галасней! Не чую!
- Слон! Ад вярблюда званю я.
- А што вам трэба? Параду?
- Не! Я прашу шакаладу!
- Для каго?
- Для сына майго.
- А ці многа прыслаць?
- Пакуль што пудоў пяць
Ці шэсць папрашу прывезці,
Болей яму не з'есці,
Ён у мяне маленькі.





2

А затым з усіх сіл
Кракадзіл
Пазваніў і праз плач папрасіў:
- Мой любы, харошы,
Прышлі нам галёшы -
І жонцы, і мне, Татошу.

- Чакай, дружа слаўны,
Здаецца ж, нядаўна
Табе я ўжо выслаў
Дзве пары галёш?

- Ах, тыя галёшы
Адразу мы з'елі,
Мы есці хацелі,
Мы з'елі б іх кош!
А зараз чакаем,
Чакаем і верым,
Што ты нам прышлеш
Для цудоўнай вячэры
Дзесятачак новых галёш!

А пасля - дзын-дзын-дзын - зайчаняткі:
- Ці не можна прыслаць нам пальчаткі?







А затым - дзінь-дзі-лень - і мартышкі:
- Калі ласка, прышліце нам кніжкі!

4

А затым пазваніў мядзведзь
Ды як стаў і раўці, і мычэць!

- Пачакайце, мядзведзь, не мычыце,
Што вам трэба - вы проста скажыце!

Але ён усё «му» ды «му»,
А чаго і чаму -
Ясна толькі яму.

- Калі ласка, павесьце трубку!






5

А затым пазванілі чаплі:
- Будзьце ласкавы, вышліце каплі:
Мы жабамі сёння аб'еліся,
І ў нас жываты разбалеліся!

А затым пазваніла свіння:
- Прышліце сюды салаўя.
Мы сонечным днём
З салаўём
Дзівосную песню
Спяём.

- Не! Не! Салавей не пяе для свіней!
Ужо лепей пакліч ты варону!







- О, ратуйце маржа! -
Ад мядзведзя ізноў званок.
- Ён вожыка марского праглынуў незнарок!





І, нібы авадзень,
Цэлы дзень:
Дзінь-дзі-лень,
Дзінь-дзі-лень,
Дзінь-дзі-лень!
То пазвоніць цюлень, то алень.

А нядаўна дзве газелі
Пазванілі і запелі:
- Ах, няўжо,
Няўжо згарэлі
Усе на свеце
Каруселі?

- Схамяніцеся, газелі!
Не згарэлі каруселі,
І арэлі ўсе ўцалелі.
Вы б, газелі, не дудзелі,
А прыскочылі ў нядзелю
І паселі, дзе хацелі
На арэлі-каруселі!

Ды не слухалі газелі,
А яшчэ гучней дудзелі:
- Ах, няўжо,
Няўжо згарэлі
Каруселі і арэлі?

Што за дзіўныя газелі?

- Што вам трэба?
Чаму сярод ночы сюды?

- Мілы доктар! Бяда!
Выручайце з бяды!
Ратуйце! Хутчэй!

- Каго?
- Бегемота!
Наш бегемот праваліўся ў балота...
- Праваліўся ў балота?
- Так!
Праваліўся бядак!
- О, доктар, прыйдзіце па ўласнай ахвоце,
А інакш ён загіне ў балоце,
Хутчэй, бо от-от памрэ
Бегемот!!!



- Добра! Бягу! Бягу!
Калі змагу, памагу!

11

Ох, нялёгкая гэта работа
З балота цягнуць бегемота!

